 

СПЕЦЫЯЛЬНЫ НУМАР



# Ніва



БЕЛАСТОК, 26 ЛЮТАГА 1956 г.

НІЛ ГІЛЕВІЧ

## НАША ДРУЖБА

*Вятры заміраюць і долах глыбокіх,*
*Абвалы спыняюць патокі ў гарах.*
*Хто спыніць вясновае раніцы крокі?*
*Хто дружбе засланіць пракладзены шлях?*

*Куды не даходзіць ні сонца, ні вецер —*
*Скрозь дружба расее праменні свае.*
*Ад шчырага сэрца да шчырага сэрца*
*Бясконцая ў свецедарога яе.*

*Яна па - прыяцелску кліча у госці,*
*Руку паціскае, даункі дае,*
*І з песнямі міру, вясны, маладосці*
*Абходзіць прасторы планеты ўсяе.*

*Яна сваім гневамгарматы і танкі*
*Тапіла ў марсельскім парту на зары,*
*Каб маці ў Карэмаглі калыханкі*
*Спакойна спявац перад сном дзетвары.*

*Яна загадала і белым і чорным*
*Пабрацца за рукі, стаць шчыльнай сцяной,*
*Каб Робсана голс гучэў непакорны*
*На страх людаедам, што трызняць вайной.*

*Хто чэсны і мужны, хто мару людскую*
*Здзяйсняе ў змаганні — нам сябра навек.*
*І хто на зямлі не дружбу такую —*
*На верным і светлым шляху чалавек.*



## НАСУСТРАЧ ЖЫЦЦЮ

На рэдкасць оцныя марозы патрэскваюць пагульваюць у палях і лясх, іней задыміў сады і гаі, высокі гурбы павырасталі ля дамоў у сёла, пасёлках і мястэчках шырокай бластоцкай зямлі. Светлымі агеньчымі свецяць вокны.

Уявім сабе на хвіліну, колькі людзей пажылых, удроных жыццём і толькі пачынаючы жыць поўнай сілай, цяпер, за гэымі вокнамі думаюць аб мінулымкыцці і ўглядаюцца ў сваю будуыню. Цяжка, проста неймаверна ўявь сабе чалавека, які мог-бы сказаць пра сябе, што яго не закранаюць і не хвалюють падзеі, якія адбываюцца ў краіне.

Новы пяцігадовы план — гэта не проста заўтрашняе жыццё наогул, нейкае абстрактнае паняцце, гэта — жыццё тваё і маё, нашага суседа, блізкага сваяка і далёкага знаёмага. Гэта — жыццё, азоранае высокай ідэяй і адначасова найбольш канкрэтнае прыкіпаючае да сэрца і нерваў.

Стварэнне Беларускага Грамадска - Культурнага Таварыства — гэта таксама жыццё, якое хвалюе, натхняе, родзіць новыя невыкарыстаныя сілы.

Наш І-шы з'езд адбываецца ў момант, калі мірная палітыка нашай краіны ўвянчалася поспехамі ў выкананні шасцігадовага плана, калі створаны ў нас усе ўмовы, дзеля таго, каб яшчэ лепш выканаць заданні нашай пяцігодкі.

Якія перспектывы, які бурны ўздым чакае нас, які да захаплення цікавы гістарычны этап пройдзем мы ў бліжэйшыя гады! І якая-ж прастора для нашай работы — небывалая дагэтуль, неаглядная!

Будзем-жа годнымі тых вялікіх падзеяў, сведкамі і ўдзельнікамі якіх мы з'яўляемся!

# ПАЛЫМЯНАЕ ПРЫВІТАННЕ ДЭЛЕГАТАМ

## І-ШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА!

 

# ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

## ЗІНА ЯКОЎЧЫК




Цяжкае і безрадаснае было жыццё Зіны Якоўчык, такое як і іншых сялян — беларусаў, жывучых пад панскай „апекай". Бацька Зіны — гаспадар, які меў 5 гектараў зямлі ў вёсцы Паўлы, бельскага павету, ледзь мог звязаць канцы з канцамі і забяспечыць сякі-такі быт сваёй сям'і; аб навуцы не было нават і мовы.

Прышлі гады гітлераўскай акупацыі, жыццё стала яшчэ больш цяжкае і беспрасветнае.

З жахам сёння ўспамінае Зіна той час, калі пад ударамі Совецкай Арміі, адыходзячы вораг пакідаў па сабе пажарышчы і памардаваных людзей.

Не дачакаў вызвалення таксама і бацька Зіны, які разам з іншымі жыхарамі вёскі Паўлы быў спалены гітлераўцамі ў вёсцы Трычоўцы.

Пасля вызвалення Зіна пачала вучыцца ў пачатковай школе.

Скончыўшы 6 класаў пачатковай школы Зіна хацела як мага хутчэй дапамагчы матцы ў яе цяжкай працы.

Маладая дзяўчына бачыла на свае вочы перамены, якія адбываліся ў навакольных вёсках. Разумела, што пачатая партыяй і урадам справа кааператыўнага будаўніцтва гэта шчаслівае і заможнае жыццё. Зрадзілася ў яе думка стаць трактарысткай.

У 1953 годзе пасля скančэння курсаў трактарыстаў, Зіна стала працаваць у Дзяржаўнай Машыннай Станцыі ў Бельску.

Пачаткова праца была цяжкая, Зіна проста не ведала як парадзіць

Пасля з кожным днём пазнавала яна ўсё лепш і лепш тайны матора, усё лепш авалодвала сталёвай машынай.

Сёння Зіна — гэта найлепшы трактарыст у станцыі;

Зіна выконвае сваю працу сумленна і дакладна, гэтым здабыла яна аўтарытэт сярод трактарыстаў і членаў сельскагаспадарчых кааператываў.

## КУЛЬТУРНАЕ ТАВАРЫСТВА

няць культурныя патрэбы беларусаў праз распаўсюджванне беларускай культуры — нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

— Шырэйшае, як дагэтуль, уключэнне беларусаў у соцыялістычнае будаўніцтва ў Польшчы і ў агульную барацьбу польскага народа за мір і будаўніцтва соцыялізма.

— Папулярызаваць сярод беларусаў магутную сілу сусветнага міжнароднага лагера міру, кіруючую роль СССР і краін народнай дэмакратыі ў барацьбе за мір і прагрэс.

*Вось асноўныя задачы ў дзейнасці Беларускага Грамадска - Культурнага Таварыства і яго членаў. Выконваючы шчыра і самаадданна нашы задачы, будзем дасягаць мэту дзейнасці Таварыства, якая поўнасцю пакрываецца з мэтай дзейнасці ўсіх працоўных — грамадзян Польскай Народнай Рэспублікі:*

— Умацоўваць народную дзяржаву, яе незалежнасць і суверэнітэт;

— Паскараць палітычнае, гаспадарчае і культурнае развіццё краіны;

— паглыбляць адзінства і згуртаванасць усіх грамадзян Народнай Польшчы ў барацьбе за ажыццяўленне вялікіх ідей соцыялізма;

— умацоўваць дружбу і супрацоўніцтва паміж усімі міралюбівымі народамі свету ў імкненні да агульнай мэты: зрабіць немагчымай агрэсію і ўмацаваць сусветны мір.

*У сваёй працы і жыцці мы, беларусы — грамадзяне Польскай Народнай Рэспублікі — будзем паступаць так, як указвае і вучыць нас наша Партыя.*

*У вялікай, магутнай, братняй сям'і будзем гартаваць сілы ў барацьбе за шчаслівае жыццё нашай краіны, за лепшую будучыню працоўнага люду усёй зямлі.*

## А. ТАМАШУК

Так ужо складаецца, што кожны з нашых дэлегатаў на З'езд — сваё мінулае ўспамінае з сумнасцю. Такое ўжо было іх жыццё. Агафон Тамашук мае асаблівыя ла гэтага прычыны.

Калі мы скончылі размову аб яго працы ў Гайнаўскай Маніпуляцыйна - Спедыцыйнай Базе, у якой працуе ў якасці нагрузчыка вагонаў, калі даведаліся, што мае свой уласны невялікі дом, што дзеці яго вучацца ў школе і жыве, як сам кажа — заможна — тады, як заўсёды, спыталіся яго:

— А як жылося Вам да вайны?

Характэрная, пакутніцкая грымаса, якая з'явілася на яго твару была ўжо дастатковым адказам. З петызмам вымае складзеную паперу.

— Чытайце — кажа.

„Дарагія Бацькі!
Мамачка, Тата, Коля, Агафон і Ольга. Суд канчаецца і я бязвінная ахвяра іду на расстрэл. Прысуд будзе выканан ў сераду, 20.V.1922 г. Начальнік Рэчыпаспалітай не амнісціраваў нас. Бывайце ўсе. Здаецца нікому нічога кепскага не зрабіў.

Сцеражыце ўсіх маіх братоў.

Бывайце!

Ваш Ваня".

Усе мы чыталі „Рэпартаж з-пад шыбеніцы" Юлія Фучыка. Але гэтыя словы — арыгінал ліста пісанага перад самай смерцю, выклікалі ў нас глыбокія пачуцці!

Ліст гэты не быў хаатычным. Літары яго не былі пакрыўленымі ва ўсе бакі. Напісаў простым, роўным почыркам — як простай і вялікай была справа, за якую ён за хвіліну меў згінуць — як разбуральнік буржуазнага ладу.

— Ці пасля ўсяго гэтага я мог жыць спакойна — ці мог хоць дзе-небудзь знайсці сабе працу.



Нягледзячы на так вялікую страту, на так сумны вопыт, па ранейшаму арганізаваў забастоўкі ў лесапільні Кагана і Шостаковіча.

Цяпер Агафон Тамашук з'яўляецца радным Гарадской Народнай Рады.

Добры, зычлівы, шчыры чалавек — ён карыстаецца ўсеагульнай павагай сярод мясцовага насельніцтва.

Вельмі цешыцца, што неўзабаве будзе мог чытаць словы пісаныя на роднай, любімай, беларускай мове.

„Працуйце дзеля дабра Радзімы" — сказаў пры развітанні.

## ВІКТАР ЦЫУНЧЫК



Не з'ўляецца гэта прыпадкам, што фотаздымак тав. Віктара Цыунчыка, сакратара прапаганды ПК ПЗПР у Бельску — паказвае яго нам адзетага і гатовага да падарожжа.

Бо і сапраўды так ёсць. Таварыш Віктар Цыунчык не любіць сядзець цэлымі гадзінамі ў сваім кабінеце, і калі можна аб кім сказаць, што ёсць „дзейным чалавекам" дык толькі аб ім.

Мы сустрэлі яго разам з тав. Ідзькоўскім з КВ ПЗПР, ідучых па пахі ў снезе на дарозе з сельскагаспадарчага кааператыва Відово ў ДМС (ПОМ).

Тав Цыунчык любіць заглянуць у сельскагаспадарчы кааператыў, цікавіцца кожным незначным здарэннем у яго жыцці, калі трэба — памагчы.

## МІХАСЬ ШПАКОВІЧ



Даўно ўжо ўсе звярнулі ўвагу на маладога, энергічнага і акуратнага працаўніка Раёна Дзяржаўных Лясоў у Белавежы — Міхася Шпаковіча.

Таму аднагалосна выбралі яго ў 1954 г. старшынёю Грамадскай Рады.

Міхась Шпаковіч адразу ўзяўся за работу: сарганізаваў гурток па апрацоўцы сенажаці, па яго ініцыятыве праведзена асушка сенажаці аб плошчы 25 кв. клм, на якой вясною будзе пасеяна трава. У наступных гадах асушыцца яшчэ звыш 300 гектараў. Прадбачыцца электрыфікацыю вёсак: Пагарэльцы, Буды і Цераміскі.

Міхась Шпаковіч сарганізаваў сямігодку для працоўных і дэнтыстычны пункт.

Вельмі патрэбна ў Белавежы лазня. Шпаковіч клапоціцца ўжо пра гэта і даб'ецца свайго.

Міхась Шпаковіч стараецца быць годным давер'я сваіх выбаршчыкаў, стараецца выконваць перадвыбарчую праграму Нарадовага Фронта.

## ПАВЕЛ АСТАСЕВІЧ

Паўла Астасевіча ў беластоцкім ваяводстве ведаюць усе людзі. Ён ужо шосты год старшынёй сельскагаспадарчага кааператыва ў Аўгустове, бельскага павету. Маёмасць гэтага кааператыва з года ў год павялічваецца. У мінулым годзе яна асягнула суму звыш 3.000.000 злотых.



За выдатнае кіраванне сельскагаспадарчым кааператывам Павел Астасевіч атрымаў „Срэбрны Крыж Заслугі", а за выдатную грамадскую працу, грамадзяне Беласточчыны ў 1952 годзе выбралі яго паслом у сейм.

Паўла Астасевіча часта можна назіраць ў гутарцы з выбаршчыкамі. Яны яго любяць і паважаюць.

**ДЭЛЕГАТАМ І-шага З'ЕЗДА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА ЖАДАЕМ ПОСПЕХАЎ У ПРАЦЫ**




**НА ПРАВО...** **НА ЛЕВО...**



*Сваёй кароўцы ледзь павалок...* *А каапэратыўнаму стадку — клок*

## СВІННЯ ПАД СЯДЛОМ

(Байка)

Парохваючы,
з ранішняй пары
Свіння хаўроння
па двары
хадзіла.
Як і належыць,
двор яна парыла
І, надакучыўшы работай
аднастайнай,
Зайшла на стайню,
Дзе зноў не засталася
без заняткаў —
Наводзіць пачала
свае парадкі;
Між іншым чухацца
а штосьці стала
І на яе упала...
сядло
І што тут са свінёй
было!
Уявіла, што яна —
сапраўдны конь,
Рысак — агонь.
Давай з сядлом насіцца
Ды ўсім хваліцца,
Паспрабавала заіржаць,
Дыбка хацела нават
стаць
Настала ўжо
вячэрняя пара —
Свіня насілася
па ўсіх дварах,
Пакуль з яе сядло
не знялі
І ў хлеў нарэшце
не загналі.
Так і ў людзей бывае часамі,
Не назіралі самі?

ЦІМОХ КАРАГА

Эпіграмы

### Згублены агроном

*Мы згубілі агранома, —*
*Дзе падзеўся? — невядома.*
*Ледзь знайшлі усім сялом.*
*У паперах за сталом.*
*Быў ён выбрацца не ў сіле, —*
*Справаздачы завалілі.*

### ПЕРАБУДАВАЎСЯ

Кіраўнічы стыль ягоны
Значна зменены цяпер:
Болей ён не шле папер, —
Прывязаўся к тэлефону.
Аднаго вось не змяняе:
Ён у вёсках не бывае.

*УЛ. КОРБАН.*

### Бывала і так

*Чытаў гадзіну ён, ці болей,*
*Даклад аб шкодзе алкаголя.*
*А слоў яго не зразумець,*
*Бо языком варочаў ледзь*

*В. ЛУК'ЯНЧЫК.*

## ЦЯЖКАЯ СІТУАЦЫЯ



— Вось жыццё настала: і дыхнуць нашаму брату не даюць.

— Паспрабуй толькі дыхнуць — і адразу скажуць, што п'яніца,

## НЕ КАЗКА, А БЫЛЬ



— Мама мне купіла шапку-невідзімку, а тата купіў боты-скараходы.

### Кемлівы

— Адразу відаць што вашы сталы і крэслы тапорнай работы.

— Няма нічога дзіўнага: гэтыя рэчы толькі тапаром і зроблены.

### Знайшоў выйсце

— Пальчатак у вас на паліцах няма, а попыт на іх вялікі. Якія вы робіце захады?

— Павесілі ў вітрыне аб'яву, што пальчатак у продажы няма, і попыт на іх адразу спыніўся.

### СПОСАБ

— Чаму вы так хутка бяжыце па лесвіцы?

— Мне шкодна бегаць па лесвіцы, і я хачу, каб яна хутчэй скончылася, — адказаў Бой - Жэленскі.

## ШТО ЗА МЕСЯЦ

*(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ)*



*Што за месяц, што за ясны,*
*У ночы свеціць, а ў дзень не.*
*Што за міленькі дружочак,*
*Калі прыдзе, калі не.*

*Усе людзі, людзі кажуць,*
*Усе людзі гавараць:*
*„Сорам, дзеўка, сорам красна,*
*Позна з вечара гуляць".*

*Дзяўчынанька кепска стала,*
*Стала плакаць, ды ўздыхаць.*
*Хлапчынаньку шкода стала,*
*Стаў дзяўчыну суцяшаць:*

*„Не плач, дзеўка, не плач, красна,*
*Прыду ў госці да цябе,*
*Разгарыцца крой гарача,*
*Вазьму замуж за сябе".*

## АНЕКДОТЫ

Аднаго разу ўвечары, калі польская пісменніца Ірэна Кржывіцкая сядзела разам з Бой-Жэленскім у кафэ, ён раптам пачаў грозна хмурыць бровы і нарэшце шапнуў ёй:

— Чаго гэты пан так заўзята пазірае на нас? Пойдзем адсюль, а інакш я вымушан буду сказаць яму пару слоў...

Субяседніца здзіўлена азірнулася. У кафэ нікога не было. Аказалася, што яны сядзелі насупраць вялікага люстэрка...

## КАРОТКІЯ ЖАРТЫ

Зніжаючы сабекошт прадукцыі, ніколі не знізіш аўтарытэту.

*

Калі крытыкаваць начальніка не адважваешся — крытыкуй сябе: падстаў дастаткова.

*

Ад празмернага карыстання робіцца тупым нават самае вострае слова.

*

Машыністка дакладвае начальніку: — Я поўнасцю надрукавала ваш даклад на 150 старонках... І якраз папера ўся скончылася.

*

Ён ушчэнт зняславіў, сябе тым, што любымі сродкамі імкнуўся да славы.

*

Пераходзячы вуліцу небяспечна заглядацца нават на плакаты правіл вулічнага руху.

## ДЗЯДЗІНА

**(Народнае апавяданне. Запісаў Ф. Багушэвіч)**

Ну, і дзядзіна ў мяне была, а багатая, дык багатая! Было ў яе сем маргоў зямлі, адна каза, сем хлявоў, тры гумны, а ўсё поўныя: у адным мак; у другім — так, а ў трэцім цапы віселі. А як пойдзе, бывала, дзядзіна казу даіць, дык пакуль казу найдзе, аж у мозгі зайдзе, а як зачне яе даіць, так нясуць малако цабрамі, вядрамі, кадушкамі. А масла дык білі на гумнішчы цапамі і маслянку ў застрэнкі змяталі; бедныя людзі дык ішлі з мяшкамі і гаршчкамі і з разгінямі: хто з чым прышоў, той з тым пайшоў. А парсюкі кормныя ў дзядзіны дык такія былі, што праз парог не маглі пралезці; але пад парогам дзірачка была, дык туды лазілі — А грачыха ў маёй дзядзіны калі зарадзіла! Вось дару божага было! Калі налажылі стог на слупе каля прыпечку, дык вось быў стог! Але зрабілася няшчасце: дзядзіна хусты прала, хтосьці дзвярмі стукнуў, стог перавярнуўся ў начоўкі і ратуначку не было!

Вось тут мая дзядзіна і збяднела. А тут дзяцей з асміна, а карміць няма чым.

Увідзеўшы гэта, панскі аліндар як прыстаў да дзядзіны: „Прадай казу, ды прадай!" Ведаў, каб яго немач, што добрая каза. Дзядзіна думала, думала — глядзіць, што няма чым карміць, і прадала казу. Аліндар казу браць, а каза ў лес наўцёкі, а воўк ды з лесу, ды яе за горла. Пакуль мы даляцелі, яна толькі крыкнула „Мааагда!", і зарэзаў яе воўк. Не так дзядзіне шкода было той казы, як жаль было таго, што каза і імя яе ведала...

### БАЦЬКА і СЫН

Сына, які адмовіўся дапамагаць бацьку, паклікалі ў суд.

— Ну, як вам не сорамна? — сказаў суддзя. — Бацька-ж выгадаваў вас, з лыжачкі карміў, а вы...

— Што праўда, то праўда, — адказаў сын. — Але-ж я быў маленькі. Я еў, як птушанё, а ён...

На працы Сына ўсе хвалілі. Не заўважалі, што ён свіння, бо такое паходжанне не пацьвярджалася анкетай.

Н. АЛТУХОЎ.

## НОВАЕ У ТЭХНІЦЫ НЕКАТОРЫХ ПОМ



— Гэй, ухнем!...

Białostockie Zakłdy Graficzne
T-71